Цана нумэру 50 кап.

# БЕЛАРУСКАЯ ДУМКА

ШТОДЗЕННАЯ ГАЗЭТА.

Рэдакцыя — Вострa-Брамская, № 9 — адчынена што дня, апрача сьвята, 10—3 гадз.

Адміністрацыя: Завальная № 7, «Белар. Кнігарня».

ПАДПІСКА: на 1 месяц—10 руб., на 3 месяцы—25 руб.

Год І. Вільня, Чацьвер, 24 ліпня 1919 г. № 53.



**БЕЛАРУСКІЯ ВУЧЫЦЕЛЬСКІЯ КУРСЫ,**

назначаныя ў Горадні на 22 ліпня,

**ПЕРАНОСЯЦЦА У ВІЛЬНЮ**

**і пачнуцца 25-га ліпня (юля).**

Заявы прымаюць у канцэлярыі Беларускай Гімназіі, Вастра-брамская, 9, ад 11 да 1 гадз.

## Аб вялікіх задачах.

Раздаюцца час ад часу ў польскай прэсе галасы паважныя і ўдумчывыя. Да гэткіх галасоў бязспорна належыць голас п. Александра Бабянскага, выражаны ў стацьці «Czy sprostamy z wielkim zadaniem?» (Ці справімся з вялікімі задачамі?) с падзагалоўкам: «Традыці Люблінскай Уніі». («Kurjer Polski») № 185). П. А. Бабянскі, заўсім слушна сьцверджае, што цяперашняя:

«палітычная мысль польская далёка адбегла ад асноў уніі і ідзе ў іншым напрамку. Довадам гэтага яўляецца хоцьбы такое аднагалоснае прыняцьце сэймам пасьпешнасьці прапазыці п. Глембінскага аб безаткладным распісаньні выбараў прадстаўнікоў у польскі сойм ад Віленшчыны і Горадзеншчыны дзеля высказаньня аб будучай праўнадзержаўнай прыналежнасьці гэтых зямель. Прапазыцыя гэтая кіруецца да таго, каб далучыць да Польшчы прылеглыя землі не клопоцячыся аб долі далейшых Ягайлавых абшарах і народах іх заселяючых».

Аб Уніі Люблінскай паважаны аўтор адмечае, што:

«Люблінскі акт папярэдзіў двухвяковае зацесьняючаеся спажыцьцё паноў і шляхты Польшчы і Літвы; быў ён даконан на асновах поўнай роўнасьці, самачыннасьці і згоды. Быў гэто акт вялікай палітычнай празорлівасьці, але злучаючы толькі шляхоцкія слаі, якія сябе толькі мелі за нацыю. На грунце гэтага акту польская шляхта атрымала нязвычайную паўзятасць. Наступіла поўная полёнізацыя шляхты літоўскай і беларускай, якая ўсе жыцьцёвыя сілы, што брала з духа і працы сваіх народаў, аддала на услугі польскай культуры, багацячы яе вялікімі культурнымі цэннасьцямі. Затое гэтыя народы, пакінутыя самім сабе, ды пазбаўленыя волі і асьветы аставаліся ў цепеньню і нерухавасьці».

Далей аўтор пераходзіць да стасункаў польска-літоўскіх, якія стараецца магчыма безстаронны схарактэрызаваць і кажэ, што між літвіноў умацаваўся пагляд на Люблінскую Унію, як на акт, які:

«учыніў немагчымым самачыннае развіцьце літоўскага народу і аднаўленьне Уніі можэ сполёнізаваць увесь народ. З гэтуль ідзе тое, між літвінаў, шуканьне выхаду з польскай орбіты».

Пераходзячы да характэрыстыкі беларусаў, аўтор кажэ:

«Мо' і перадчасна гаварыць аб становішчы беларускага народу, большасьць якога астаецца пад бальшавікамі. Слабы адродчый рух па 1905 г. за час вайны амаль не саўсім зніштожан. Рэвалюцыйны бальшавіцкі і немецкі час не маглі вытварыць дзержаўнай ідэалёгіі, там ёесьць толькі зачаткі палітычнай мыслі. Рэзалюцыі віленскага зьезду з 9, 10 і 11 чэрвеня выяўляюць шуканьне новых дарог і нямогуць выклікаць не здаволеньня. Кіраваньне да адбудоўкі супольнай беларуска-літоўскай дзержавы, не выключае добравольнай сувязі з Польшчай, прычым польская дэмакрацыя павінна вытварыць фундамэнты прыязных адносін у будучыне між двума народамі.

«Хто-ж можэ пярэчыць таму, што акурат гэту ролю павінна сыйграць наша дэмократыя і прадстаўнікі народу (трэба разумець - сялянства. Прыпісак Рэдакцыі). Вядомая асцярэжнасьць ад стараны літоўскай і беларускай саўсім зразумелая і ўзмацоўваецца яшчэ пры розных соймовых прапазыцыях, сягоньня прыйманых, заўтра аткіданых.

«Бо ці-ж не разбіваецца Унія і з стараны польскай праз анэксію часьцей т. зв. «Белай Польшчы», разбіваюць яе і з стараны народаў, кіруючыхся да дзержаўнага жыцьця, якія ніколі не зазналі яе дабрадзейства, а вынеслі ціжар пяцісот-гадовай няволі».

Паважны тон з якім аўтор прыступіў да абрысаваньня набалеўшых адносін заахвочывае нас высказацца ў некаторых справах балючых і ятрачых ўзаемныя адносіны.

У справе далучэньня да Польшчы Віленшчыны і Горадзеншчыны мы ведаем, што калі-б гэта справа і прайшла, то абшары гэтыя сталіся-бы векавечнай пропасьцю і ядром незгоды між народам беларускім і польскім. У канцы зерняты нацыянальнага адраджэньня так буйна рунеюць апошнімі часамі тут, што надзеі эндэцыі на сполёнізаваньне тутэйшых беларусаў, павінны мы папярэдзіць, саўсім дарэмныя. Народ беларускі на гэтых абшарах прачхнуўся ўжо. І яго сьвядомасць, як лавіна будзе накачываца, расьці, а разам з ей будзе ўзрастаць заўсім натуральнае жаданьне злучыцца з сваей мэтрополіей, ад якой земля гэта была-бы адрэзана. У найгоршым здарэньні край станецца раз'ярэнай ранай, арэнай змаганьня і нездаволеньня. Што хіба ня можэ быць ні жаданым, ні карысным ні маладой польскай дзержаве, ні адраджаючамуся беларускаму народу.

Задушэны маскоўскім царызмам беларускі народ занепаў, але не замер. Адродзы рух не такі слабы, як мяркуе сабе

роў у савецкую армію. Паміж высланымі шырацца весткі, што угода паміж Нямеччынай і Расеяй, дагэтуль, будзе ужо хутка апавешчэнā. Апошнімі часамі немцы высылаюць цэлыя палкі ў савецкіх мундзірах у бальшэвіцкую армію.

### Што кажа Падарэўскі аб будучыне Літвы.

Парыжскі карэспандэнт «Kur. Warsz.» меў размову з п. Падарэўскім у актуальных справах польскай палітыкі. Падарэўскі сказаў:

„Шмат больш чым справа Галіцыі цёмным прэдстаўляецца цяпер пытаньне літоўскае. Прычынай гэтага яўляецца той факт, што Літва гэто узбярэжны край, які вельмі цікавіць англійскую дыплёмацыю, жадаючую гэту справу развязываць на ўласную руку і разам сузвязнымі дыскусыямі. Рэзультатам гэтаго ёсьць факт, што аб Літве нейкі час у Парыжы з палякамі гаварылі неахватна, затое дэлегаты Тарыбы п. п. Ічас і Вольдэмар былі часта запрашаны на нарады. Гаварыць з намі пачалі толькі аб будучыне Беларусі, як выявілося, што правінцыя гэтая цэлікам ня можэ быць з Літвой.

Дзеля гэткіх прычын змушэны я быў заняць вельмі выразнае становішча. Я падаў мэморьял найвышэйшай Радзе, у якім ярка падчыркнуў перавагу польскай культуры ў Літве, спрацiўляючыся пастановам аб будучыне гэтаго краю без паразуменьняў з Польшчай.

Маю прычыну думаць, што гэты мэморьял вызваў добрае ўражэньне. Сэкрэтные нарады ў справе Літвы былі спынены і цяпер будзем акуратна паведамлены аб усіх фазах, гэгак важных для нас перэгавораў».

## Маленькі фельэтон.

### Слухайця, дзядзькі!

Іду гэта я сабе па вуліцы.

Іду, як і ўсе людзі ходзяць.

Раптам чую—нехта з заду мяне крычыць, што мае сілы:

— І тутака і ўсюды будзе Польшча, і ў Варшаве, і ў Менску і ў Горадні.

— Польшча, і ўсё польскае і больш нічога.

Добра,—думаю,—ніхай будзе сабе на здароўе, але-ж чаго крычаць.

Я некалісь чуў, як бальшавікі казалі:

Усё савецкае—савецкая ўласьць, савецкія дамы, землі, працаўнікі, прадстаўнікі савецкія, усе, усе...

Добра,—думаю, — ніхай будуць і «сабакі савецкія».

Я паглядзеў на таго дзядзьку, што хацеў усяго польскага і пайшоў сабе дадому. І як мне ня было чаго рабіць, то я троха і задумаўся.

Подумаў і заключыў, што «Польскі дзядзька» можа троха, а можа і нісколькі ня праў. А я, як і ўсе людзі хачу сабе барыша і дзеля гэтага люблю праўду,

(Дзяды нашы казалі, што ўсё прападае, адна праўда астаецца).

Я і хацеў-бы растлумачыць польскаму дзядзьку, што ён троха нятак думае.

Хадзіць па вуліцах і шукаць дзядзьку я ня хачу, бо дзе-небудзь ці паламаю сабе ногі, ці падэшвы паадзіраю за тым, што нехта павыймаў дошкі з тратуараў.

(Мусіць віленьскія жабры сабе ячню пякці).

Дык я і хацеў-бы, каб гэты мой ліст прачытаў і польскі дзядзька і іншыя людзі, што чулі дзядзьку, бо на вуліцы было шмат народу.

Што Польшча будзе ў Варшаве, дык гэто йнакшэ і быць ня можа, бо

Там жывуць Палякі.

А што ў Менску, ці ў Горадні будзе Польшча, дык гэнага ніяк ня можа выйсьці, бо

Тут жывуць Беларусы.

Жывуць сабе і паміраць ня зьбіраюцца.

А вядома, што сколькі беларуса ня стрыжы, ня голі, ён заўседы застанецца беларусам.

І гэта праўда.

А Палякі ня зробяць сабе шкоды і закрыўшы вочы

Ня будуць лічыць беларуса палякам.

Ды і ў навуцы і ў грамадзянскім жыцьці палякі сіганулі ўперад белаарусаў гэтак гадкоў на 100 ці 200, і вядома —

Чым чалавек разумнейшы, тым балей яму трэба, а на гэту справу ў палякоў

Ні надта тоўста, то як ёсьць 20 мільёнаў палякоў і 12 мільенаў беларусаў, дык

Каб 2 без трэйця паляка ня село на шыю аднаму беларусу.

(Хоць у беларуса і даўгая шыя, але-ж для сябе).

У гэтым часе палякі таксама ня зробяць сабе шкоды.

Потым я чуў, што і самі паны Палякі жывуць, як кажуць, без ніякага тыну на дварэ.

Калі гэткая справа, дык куды там да Беларусі —

Хаця-б самі абгараділіся.

Ды і майстроў, як баравікоў, у лесе не назбіраеш.

Ды мала якіх бывае ў жыцьці падраб'язкаў:

То секера без тапарышча, то тапарышчэ ё, а секеры німа, то

Конь ё, а зброі няма...

Вядома, што як чалавек пачне будавацца пасля пажару, дык ўвасем няхватка, сябе-б даглядзець...

А каб яшчэ к гэтаму чужога вала араць вучыць, ці ў чужым лесе сьцежкі рабіць, то Божа барані.

Ну, а на шчот таго, што ўсё будзе польскае, дык шкада, што я ня спытаўся ў таго дзядзькі, як гэто можа выйсьці.

Напрыклад, калі маё бацькі былі беларусы і ад іх дастаўся мне мой беларускі нос, то я ня ведаю, як яго зрабіць польскім носам.

Ніяк ня зробіць.

Хіба адкарнаць.

Тады саўсім ня будзе ніякага.

Ад пытаньня па гэтаму я надумаўся, што польскі дзядзька можа хацеў сказаць:

—Усе будзе супольнае, грамадзянскае.

(Можа з яго галавы несаўсім вывятрыліся бальшавікі).

Ды на гэнае я дзядзьку вось што скажу.

Ленін галосіць:

Усе обшчае. Усе для ўсіх.

А тым-часам робіць, напрыклад, вось як.

Схвалі Румынцы ад Немцаў у Дзержаўным Банку ў Маскве саваё золата.

Ленін ціхачом прыехаў і атрымаў 2 мільёны.

Румынцы даведаліся і пачалі з Расеяй барацьбу.

Цяпер Ленін крычыць:

Барацьба грамадзянская, усё на барацьбу!

Есьць такія дурні, што і йдуць.

А ён сядзіць сабе дома, да кафеі і гарэлкі з кабетамі расьпівае. Хоць гарэлку піць можна і ў кампаніі, але-гэто не грамадзянство.

Ляпей, дзядзькі, ось што—ніхай—

хто дзе быў—там і будзе,

хто кім быў—тым і будзе,

чыё што было—таго і будзе.

**Лука.**

Рэдактар і выдавец Э. Падгайскі.



Пазволено ваеннаю цэнзураю. Друкарня «Віленскага Выдавецтва», Мала-Стэфанаўская, 23